У НУМАРЫ



# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 3 (777) ГОД XVI — БЕЛАСТОК 17 СТУДЗЕНЯ 1971 г. — ЦАНА 60 гр.


У дваццаць шостую гадавіну вызвалення



КАНСТАНТЫ ІЛЬДЭФОНС ГАЛЧЫНСКІ

## ВАРШАВА

Хоць бы плыў ты па моры
Ці ўздымаўся ў горы
У краіне нязнанай, цікавай,
Пра яе — не забыцца,
Яна ноччу прысніцца,
Як дзіця, ты паклічаш, Варшава!
А як згледзіш, мой браце,
Месяц на Мар'енштаце,
Калі ў парках спяць дрэвы і травы,
Станеш ты з той часіны,
Як хлапец у дзяўчыну,
Закаханы навекі ў Варшаву,
Праз вякі непакорным
Ты прайшоў, горад родны,
Наша радасць, натхненне і слава,
Для цябе сэрцы б'юцца,
Нашы думкі імкнуцца
Да цябе, дарагая Варшава.

*Пераклаў з польскай мовы*
*Іосіф Скурко*

* * *

*Намаганнямі ўсяго народа былі адбудаваны пасля ваенных знішчэнняў многія варшаўскія помнікі. Старуўка, Кракаўскае прадмесце, Новы свят, Лазенкі, Віляну́ў — гэта толькі некаторыя сярод дзесяткаў старадаўніх пабудоў, якія часта былі рэканструяваны ад фундаментаў. Віляноўскі палац (на здымку) не быў моцна разбураны, але было знішчана багатае ўнутранае ўбранне, былі вывезены тысячы мастацкіх шэдэўраў. Генеральны рамонт помніка, якому 300 год, працягваўся многа гадоў. Сённяшнім Віляновам быў бы задаволены нават кароль Ян III.*

*Фота Цаф — Ухымяк.*

## БГКТ хроніка

● Пад кіраўніцтвам намесніка старшыні Мікалая Матэйчука 29-га снежня адбылося пленарнае пасяджэнне беластоцкага павятовага праўлення БГКТ, якое было прысвечана развіццю аматарскага руху. З дакладам на гэтую тэму выступіў новы інструктар Галоўнага праўлення на гэты аддзел — Валя Філіпюк. Падчас плённай дыскусіі выступіў сакратар ГП Янка Зенюк, які таксама гаварыў аб задачах аматарскага руху ў беларускім асяроддзі. Другім пунктам пленума былі арганізацыйныя справы. Удзельнікі пленума паверылі Валі Філіпюк абавязкі сакратара аддзела. Гэтую функцыю выконваў Янка Цялушэцкі, які перайшоў на работу ў «Ніву». З членаў прэзідыума аддзела пленум вывеў Сцяпана Нікіцюка (не праяўляў актыўнасці), а на месца яго назначыў — Ніну Мушынскую з Гарадка.

● У памяшканні ГП адбыўся навагодні баль, арганізаваны гарадскім аддзелам БГКТ.

● Ужо падлічана, як нашыя члены БГКТ з паасобных аддзелаў выконвалі ў 1970 годзе адзін з галоўных абавязкаў — аплачванне членскіх складчын. І так, у дуброўскім аддзеле ўсе члены БГКТ аплацілі складчыны. На другім месцы варшаўскі аддзел. Аплачаны там складчыны ў 90%. Трэцяе месца займае сямяцінкі аддзел. Аплочаны складчыны ў 80%. На чацвёртым месцы гданьскі аддзел — 75%, на пятым месцы сакольскі аддзел — 69%, на шостым гайнаўскі аддзел — 55%, на сёмым — бельскі аддзел — 36%, на восьмым гарадскі беластоцкі — 36%, і на дзевятым беластоцкі павятовы аддзел. Там толькі — 25% членаў БГКТ аплаціла складчыны за 1970 год.

● Харавы калектыў з Гарадка ў канцы 1970 года закупіў матэрыял на ўборы. Грошы на гэта прызнала ГП. (мх)

## XV ГОД

## МІКАЛАЙ СЕРАДЗІНСКІ

Калі гутарка ідзе пра актыўных людзей Беларускага грамадска-культурнага таварыства з нагоды яго 15-ай гадавіны існавання, дык, безумоўна, сярод іх знойдзем загадчыка Бельскага аддзела ПКО, таварыша Мікалая Серадзінскага. Ён — старшыня мясцовага гуртка БГКТ, з'яўляецца членам праўлення павятовага аддзела БГКТ у Бельску і членам рэвізійнай камісіі пры Галоўным праўленні БГКТ, а, акрамя таго, узначальвае яшчэ камісію скаргаў у павятовым камітэце ПАРП у Бельску і грамадскім чынам выконвае абавязкі сакратара павятовага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы, член Польскай аб'яднанай рабочай партыі ад 1950 года. Выбіралі яго ў члены Галоўнага праўлення БГКТ, удзельнічаў амаль ва ўсіх з'ездах нашага таварыства.

— Калі вы сталі членам БГКТ?

— Цяпер ужо дакладна не памятаю, але сталася гэта на I-шым арганізацыйным сходзе, які адбыўся ў Бельску. Я тады актыўна дзейнічаў у бельскай арганізацыі Таварыства польска-савецкай дружбы і заснаванне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ўспрыняў з радасцю. Не толькі я. Усе жыхары Бельска, якія лічылі сябе беларусамі, спадзяваліся, што БГКТ створыць умовы для развіцця іх культурных зацікаўленняў, што зможам мы недзе разам збірацца, гутарыць на роднай мове, спяваць свае беларускія песні.

— Ці гэтыя надзеі апраўдаліся?

— Безумоўна, так. Цяпер гурток БГКТ у нашым горадзе налічвае звыш 200 членаў. А ў мяне асабіста так склалася, што нават маё сямейнае жыццё спалучылася з нашым таварыствам.

— Гэта як разумець?

— У 1956 годзе маё начальства накіравала мяне на гадавы курс у Варшаву. У варшаўскім клубе БГКТ пазнаёміўся я са студэнткай Галоўнай школы вясковай гаспадаркі, Марысяй Сапежка, бацькі якой жывуць на Гайнаўшчыне, у вёсцы Новае Беразова. Праз год мы пажаніліся. Такім чынам маё сямейнае жыццё распачалося ад кантактаў з Беларускім таварыствам. Жонка мая таксама ад самага пачатку па сённяшні дзень з'яўляецца членам БГКТ. Яна ўмее і любіць спяваць. Дык на адным са сходаў нашага гарадскога гуртка БГКТ рашылі мы арганізаваць аматарскі беларускі хор. Прыходзілася хадзіць па кватэрах знаёмых, наведваць іх на рабоце, заахвочваць. Наш хор пачаў актыўна дзейнічаць у 1965 годзе. Найгорш было з тым, што не меў ён адпаведнага памяшкання для сваіх рэпетыцый. Часта карыстаўся ён святліцай, якая знаходзіцца ў новым будынку бельскага аддзела БГКТ.



— Ці грамадская дзейнасць не ўплывае адмоўна на вашае сямейнае жыццё?

— Пражылі мы разам ужо 14 год — амаль столькі, колькі існуе Беларускае таварыства, пражылі згодна і шчасліва. Маем дачку Аліцыю, якая вучыцца ў пятым класе беларускай пачатковай школы, і сына Яраслава, які ў гэтым годзе таксама пойдзе ў школу.

— Вы кіруеце Бельскім аддзелам ПКО. Ці людзі на Бельшчыне жывуць ашчадна?

— Наш аддзел ПКО сваёй дзейнасцю ахоплівае таксама і Сямяціцкі павет. На ашчадных кніжках грамадзяне з Бельскага і Сямяціцкага паветаў склалі звыш 200 мільёнаў зл. У сярэднім на аднаго жыхара прыпадае па 2200 зл. ашчаднасці. Наш аддзел займае трэцяе месца ў ваяводстве.

— З якімі справамі і праблемамі вы сутыкаецеся як старшыня камісіі скаргаў пры павятовым камітэце партыі.

— Найчасцей людзі дагэтуль падавалі скаргі на бяздушнасць паасобных працаўнікоў выканаўчых органаў павятовай і грамадскай рад. Шмат прэтэнзій плыве ў адрас аддзела архітэктуры.

— Дзякую за цікавыя выказванні і жадаю далейшых поспехаў у прафесіянальнай працы і грамадскай дзейнасці.

Неабходна праінфармаваць яшчэ чытачоў, што таварыш Мікалай Серадзінскі за актыўную грамадскую дзейнасць, за выдатныя вынікі ў працы ўстановы, якой кіруе ад пачатку яе існавання, нядаўна (у снежні мінулага года) быў узнагароджаны Сярэбраным Крыжам Заслугі, а калектыў Бельскага аддзела ПКО атрымаў спецыяльную грашовую прэмію.

*В. Рудчык*

# НЕ ТОЛЬКІ ГАНДАЛЬ

Зімовы, снежны вечар. Людзі скончылі свае гаспадарскія абавязкі. Адпачываюць, хто як можа і ўмее. Многія ідуць у клуб.

Знаходжуся ў вёсцы Койлы Гайнаўскага павета. Клуб тут невялікі, месціцца ў прыватным памяшканні Пятра Ваўрэнюка. У клубе некалькі столікаў, крэслы, тэлевізар, розныя гульні, ды буфет з папяросамі, аранжадай і півам. Клуб належыць да гайнаўскай гміннай спулдзельні. Так сапраўды то найбольшай прыемнасцю для наведвальнікаў клуба з'яўляецца тэлевізар. Але і ў тэлевізары бывае часам праграма нецікавая і нудная. Прысутныя тады таксама нудзяцца.

У клуб увайшла настаўніца мясцовай школы, Эльжбета Баранецкая. Змяніліся твары прысутных. Пачынаецца вечар гульняў і смеху. Вось хаця б такая простая гульня. Дзве асобы купляюць па пачцы пячэння і пачынаецца конкурс — хто хутчэй з'есць. Потым настаўніца купляе лізак і ўручае яго пераможцу. Нібы нічога разумнага, а смеху на цэлую гадзіну. Настаўніца Баранецкая з'яўляецца частым госцем у мясцовым клубе. Пераканалася яна, што звычайныя гарцэрскія гульні цешаць пажылых, сур'ёзных сялян у не меншай меры, чымсьці вясковую дзетвару.

Апрача клуба ў Койлах, гайнаўская ГС мае яшчэ клубы гаспадара ў Новаберазове і Карыцісках. Шкада толькі, што мясцовыя настаўнікі не ўключаюцца там у працу клубаў, не імкнуцца выкарыстаць іх да такіх ці іншых культурных мерапрыемстваў. Праца клуба зводзіцца тут у асноўным да агляданне тэлевізійных праграм. Добра і гэта, але магло б, як кажуць, быць яшчэ лепш.

Найцікавейшым аднак мерапрыемствам гайнаўскай ГС будзе кавярня ў Горным. Горнае — гэта адна з вуліц Гайнаўкі, а адначасова гэта зусім звычайная вёска. Некалькі гадоў таму назад вёску Горнае прылучылі да Гайнаўкі і зрабілі з яе вуліцу Горнае. Гайнаўская ГС пастанавіла абсталяваць тут высокастандартную кавярню, такую, якія ёсць у вялікіх гарадах: з музыкай, з рознымі культурнымі мерапрыемствамі, з высокаякаснымі напіткамі, кавярняй апекавацца будзе гайнаўскае праўленне БГКТ, якое праводзіць тут будзе сваю культурна-асветную дзейнасць. Клуб размесціцца ў старым, але абшырным школьным будынку, з якога вучні высяліліся пасля пабудовы ў Горным новай, прыгожай школы. Жыхары Горнага хутка змяняюць свой спосаб жыцця і свае манеры з чыста вясковых на гарадскія, і новая кавярня будзе новым праявам гэтых перамен.

Гайнаўская гмінная спулдзельня з'яўляецца найважнейшай гміннай спулдзельняй Гайнаўшчыны. Забяспечвае яна гандлёвыя паслугі сялянам Гайнаўкі і навакольных грамадскіх рад. Свае гандлёвыя абавязкі ў адносінах да сялян ГС выконвае дасканала. Кіраўніцтва гміннай спулдзельні ведае аднак, што гандаль для ГС — рэч, праўда, найважнейшая, але не адзіная. Хоча яно і вельмі слушна — у меру сваіх сіл і магчымасцей прычыніцца таксама і да культурнага развіцця Гайнаўкі і навакольных вёсак.

*У. Паўлючук*

## НАРОДНАЕ МАСТАЦТВА БЕЛЬСКАГА ПАВЕТА

Так называецца адкрытая ў Бельску выстаўка, якая паказвае народнае мастацтва павета. Як вядома, Бельскі павет належыць да багацейшых і больш арыгінальных раёнаў па характару сваёй народнай культуры. Тут спатыкаем жывыя формы ў пастаянным развіцці разьбы па дрэву, саламянага і ваўнянага ткацтва, вышыўкі, гафту і г.д. У Бельску знаходзіцца цэнтр народнай вытворчасці, існуе пункт скупу народных вырабаў для рынку.

Бельская выстаўка з'яўляецца адной з серыі выставак народнага мастацтва Беласточчыны, арганізаваных аддзеламі культуры. Кожная з іх паказвае свой раён і яго асаблівасці. (вл)





*І сабралася група ў 40 асоб...* *Фота Цаф — Сянько*

ВАНДРОЎКІ ПА ВАКАЛЬНЫХ І МУЗЫЧНЫХ КАЛЕКТЫВАХ (2)

## ТРАСА ДРУГАЯ: МІЛЕЙЧЫЦЫ — БЕЛАСТОК

Спявалі ў Мілейчыцах пры Тэклі Вашчук. Была яна тады настаўніцай у мілейчыцкай школе. З найбольш здольных старэйшых школьніц (пачынаючы ад V-га класа) выбрала свой каляровы квартэт «Бядронкі», які блісnуў на конкурсе беларускай песні 1970 года ў Беластоку. Блісnуў і... пагас. Адышла з Мілейчыц Тэкля Вашчук і адышлі дзяўчаты-бядронкі. Кажуць, што дзве з іх вучацца ў беластоцкіх тэхнікумах і прыходзяць на Варшаўскую 11 спяваць у новым беларускім хоры.

А ў Мілейчыцах замоўклі песні. Пытаю ў Тэклі, ці, будучы ў Мілейчыцах, не прабавала яна працаваць з дарослай моладдзю?

Тэкля Вашчук: «Прабавала я ў Мілейчыцах зрабіць хор з моладдзю і старэйшымі. Нямнога аднак было жадаючых. Саромеліся чагось людзі. І з рэпертуарам было там кепска. А калі хочаш нешта рабіць са старэйшымі, трэба мець добры і цікавы рэпертуар.

Ставілася таксама ў Мілейчыцах справа інструментальнага калектыву. Былі мандаліны. Але да гэтага інструменту моладзі не загоніш. Мне, калі я была настаўніцай, лягчэй было працаваць са школьнікамі. У школе ў нас заўсёды быў калектыў. Конкурс беларускай песні нас мабілізаваў. Рыхтаваліся мы салідна. Многа дапамог пан Юзэф Янушка. Ён вельмі заангажаваўся ў нашу працу з «Бядронкамі». Мы тады прыдумалі назву нашаму квартэту. Вырашыла я таксама, што «Бядронак» маіх апрану міла для вока. Праўду кажучы, блюзкі і спадніцы ўжо абрыдлі і трэба заўсёды шукаць нечага новага таксама ва ўборах. Вельмі важна, калі група спевакоў, ці нават адзін саліст добра выглядае знешне. Важная і назва хору ці групы. Цяпер мода на кароткія назвы і добра было б такую моду і ў беларускім вакальным руху ўвесці».

Наш расказ з падарожжа ў Мілейчыцы датычыць таго, што было. Пробы стварыць там сталую вакальную групу не выйшлі. Аднак і ГП і я асабіста пераканаты, што Мілейчыцы спяваць могуць. Павінны! Бо ці толькі на спробах можа скончыцца спявачая ініцыятыва Мілейчыц?

А ў Беластоку сярод членаў і сімпатыкаў Беларускага таварыства і клуба таксама чарговая спроба арганізаваць хор, канкрэтна звязаная з трыма асобамі ўжо: Тэкляй Вашчук, якая з Мілейчыц прыехала ў Беласток, Зосяй Стаськевіч — кіраўніком клуба і Станіславам Станкевічам — доўгагадовым і актыўным дзеячом таварыства і «Лявоніхі», зараз студэнтам музычнага аддзялення Вышэйшай настаўніцкай школы ў Беластоку.

У Беластоку пры гарадскім аддзеле гаворыцца ясна і выразна пра хор у поўным значэнні гэтага слова. Калі пачынаю сумнявацца ў сэнсе існавання хору, калі пытаю, ці выйдзе цяпер хор, бо ж розныя цяжкасці з гэтым бываюць, калі кажу, што можа лепш бы арганізаваць вакальную групу эстраднага характару, спатыкаюся з нязломным перакананнем і верай, што ў Беластоку патрэбен поўны мешаны чатырохгалосны хор, хор у некалькі дзесяткаў асоб. Некалькі месяцаў ужо прайшло. І сабралася група ў 40 асоб, група людзей, жадаючых складаць беларускі хор. Гэта людзі маладыя. Улічваючы энергію і ўпартасць арганізатараў хору і яго ўдзельнікаў, можна паверыць, што беларускі хор будзе існаваць. Што ў 1971 годзе пачуем яго першую праграму.

Некалькі слоў пра праграму і рэпертуар. ГП мае цяпер чалавека, які можа заняцца, а нават ужо заняўся, апрацоўкай народных песень Беласточчыны для харавога выканання. Нарэшце тое, чаго трэба, чаго вымагаў наш час і патрэбы. Песенны фальклор Беласточчыны будзе ўваходзіць у рэпертуар калектываў. Кіраўнікі беларускага хору сцвярджаюць: «Мы хочам быць калектывам фальклорным». Тэкля нават усклікае: «Каб здабыць нам характэрныя беларускія абрады! Мы б тады ўсю нашу праграму збудавалі на іх канве!»

Ідуць размовы пра хор, пра яго арганізацыю. Існуе цікавая думка, што хор не будзе стаяць на месцы, але будзе ў пастаянным руху на сцэне. Будзе спеў, танец, ігра, каляровыя ўборы. Усё будзе складацца на цэласць жывую і радасную. Вобраз будучага беларускага хору ў Беластоку, які рысуюць яго творцы, прадстаўляецца прыгожа. Гавораць там таксама, што сярод 40 харыстаў пануе энергія і лад, ахвота да працы. Калі так, то варта чакаць пакуль аж ва ўсёй сваёй красе не выступіць з праграмай хор гарадскога аддзела Беларускага таварыства у Беластоку.

*Вера Леўчук*

*МОЙ РОДНЫ КУТ...*



*Зімовая дарога.* *Фота: Я. Цялушэцкі*




## БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

Выйшаў II том «Беларускай савецкай энцыклапедыі». Пачынаецца ён Афінамі і канчаецца беларускай вёскай Ведрыч. Том асабліва багаты беларускай тэмай. У ім жа ўсё, што на «б». Перш за ўсё трэба адзначыць артыкул «Беларусы». У ім знаходзім багатую інфармацыю аб беларускай нацыі, між іншым, аб рассяленні беларусаў: у БССР, Савецкім Саюзе і за межамі (у тым і ў ПНР). Лікі, факты, табліцы. Артыкул мае наступныя раздзелы: «Фарміраванне беларускай народнасці» (падраздзелы: «У перыяд Кіеўскай Русі», «Беларусы ў Вялікім княстве Літоўскім», «Беларусы ў Рэчы Паспалітай») «Фарміраванне беларускай нацыі», «Фарміраванне беларускай сацыялістычнай нацыі» (падраздзелы: «Сацыяльна-эканамічныя ўмовы. Стварэнне БССР», «Удзел беларусаў у Вялікай Айчыннай вайне Савецкага Саюза», «Заняткі, побыт», «Развіццё беларускай культуры»).

Нас асабліва цікавяць матэрыялы, звязаныя з Беласточчынай. Яны куды багацейшыя, чым, напрыклад, у «Малой» ці «Вялікай Савецкай Энцыклапедыі». Выступаюць у асобных артыкулах і таксама не звязаных непасрэдна з Беласточчынай. Даюць яны добрую і, па меры магчымасці, навейшую інфармацыю. І так, А. Мальдзіс у даведцы пра БГКТ піша аб характары нашай арганізацыі, паведамляе, якім мэтам яна служыць, калі была створана, называе аддзелы, інфармуе аб кафедры беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце і аддзяленні бел. філалогіі пры завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку, аб літ. аб'яднанні «Белавежа» і яго зборніках «Рунь», «Мой родны кут» і «Белавежа», аб кніжках вершаў А. Барскага, Я. Бурша і В. Шведа, аб навуковым гуртку і яго выданнях, аб нашым музеі, «Лявонісе», «Ніве» і «календары». Беларускаму этнаграфічнаму музею ў Белавежы прысвечана таксама асобная даведка.

Шмат каштоўных вестак прыносяць артыкулы, прысвечаныя Беластоку, Беластоцкаму партызанскаму злучэнню, Беластоцкай вобласці, Беластоцкаму абласному антыфашысцкаму камітэту і Беластоцкаму падпольнаму абкому КП(б)Б.

Вось некалькі фактаў аб Беластоцкім партызанскім злучэнні: налічвала 4165 узброеных партызанаў, аб'яднаных у 5 брыгад: «У імя Радзімы», імя Чапаева, імя Кастуся Каліноўскага, імя Аляксандра Неўскага, імя Панамарэнкі і 7 асобна дзейных атрадаў: «Баявы» імя Дунаева, імя Калініна, імя Будзённага, імя Жукава, імя Багдана Хмяльніцкага, імя Дзяржынскага і № 550. За час дзейнасці байцы Беластоцкага партызанскага злучэння падарвалі 418 вайсковых эшалонаў ворага, 1456 рэек, 193 чыгуначныя і шашэйныя масты, знішчылі 25 танкаў і бронемашын, 190 аўтамашын, 1 самалёт, разбілі 19 варожых гарнізонаў і штабаў, 23 валасныя управы, 6 нямецкіх маёнткаў, знішчылі больш за 18 тыс. і ўзялі ў палон 450 фашыстаў.

Звернем яшчэ ўвагу на нашых землякоў, якім прысвечаны даведкі ў II томе БелСЭ. Будуць гэта: Міхаіл Баброўскі з Вулькі — беларускі славіст і арыенталіст, Уладзімір Баўм з вёскі Карыціскі Бельскага павета — гаспадарчы дзеяч БССР (Герой Сацыялістычнай Працы), Якаў Браншттэйн з Бельска — беларускі і яўрэйскі савецкі літаратуразнавец і крытык, Павел Валошын з Гаркавіч Сакольскага павета — адзін з ініцыятараў стварэння Беларускай сялянска-рабочай грамады і Аляксандр Вашкевіч з Белавежы — Герой Савецкага Саюза. За выключэннем Баброўскага пры ўсіх іншых выхадцах з Беласточчыны змешчаны іх партрэты. Шкада толькі, што аўтар даведкі пра А. Вашкевіча не меў, відаць, поўных вестак аб ім. Вашкевіч выступае тут у ролі камандзіра палка, а вядома ж, што з 1944 г. камандаваў ён дывізіяй. На гэтым пасту ў генеральскім чыне і загінуў пад Будзішынам у апошняй фазе вайны.

У цэлым II том БелСЭ, як і першы, робіць вельмі карыснае ўражанне. Апрацаваны з вялікай дбайнасцю і любоў'ю, з'яўляецца сапраўдным універсальным даведнікам па пытаннях, якіх не знойдзеш у іншых энцыклапедыях.

(рл)

# У НАС, У СТРАШАВЕ

У Страшава прыехаў я ў адзін з апошніх дзён снежня мінулага года. Вёска Страшава (Беластоцкі павет) знаходзіцца ў трох кіламетрах ад Гарадка і амаль адзін кіламетр ад чыгункі, якая спалучае Беласток з Зубкамі. Невялічкая яна ды яшчэ раскінутая па так званых калёніях.

Размову пачалі мы з Зінай Лебядзінскай, загадчыцай мясцовай святліцы. Зіна расказала нам аб вестках з так званага свайго панадворка. Закранула яна тэму культурнага жыцця.

— Культурнае жыццё ў нас у Страшаве, можна сказаць, страціла ранейшы размах. Стала гэтак у сувязі з тым, што са Страшава выехалі дзве нашыя актывісткі — настаўніца Марыя Вярцінская і старшыня гуртка ЗМВ Лідзія Антончук. Пані Вярцінская працуе зараз у школе ў Сахонях, а Лідзія Антончук заканчвае апошні год навукі ў эканамічным тэхнікуме і таму затрымалася яна ў Беластоку. Раней Лідка, як яе ў нас тут называюць, штодзень даязджала цягніком у школу.

Неўзабаве адбудзецца сход гуртка ЗМВ і тады выбяруць новае яго праўленне. На маю думку, моладзь наша надалей будзе ахвотна ўдзельнічаць у развіцці культурнага жыцця ў вёсцы. Дагэтуль нашая моладзь збіралася ў святліцы не толькі глядзець тэлевізар, ці пачытаць прэсу, пагуляць у шашкі, але арганізоўвала танцавальныя вечарыны, сустрэчы з цікавымі людзьмі, рабіла фотавыстаўкі і сценгазеты. Сходзілася моладзь, каб дапамагчы мне сабраць большую колькасць грампласцінак на сяброўскую вечарыну або на рэпетыцыі, калі рыхтавалі мы мастацкую частку з той ці іншай нагоды. Дзякуючы вялікаму вопыту ў працы з моладдзю пані Вярцінскай удалося нам падрыхтаваць п'есу «Выважажыла» Ю. Геніюша, а таксама п'есу «Як я быў доктарам» М. Алтухова. Моладзь наша актыўная ў рэалізацыі грамадскіх чынаў. Прымала яна ўдзел у пасадцы лесу, будове дарог, парадкаванні прышкольнага панадворка, на якім знаходзіцца наша святліца, і г.д. Цяпер у нас новая кіраўнічка школы, пані Галена Аўрон, яна не супраць таму, каб уключыцца да працы з моладдзю.

Нашы клопаты? Задоўга рамантуюць у Гарадку наш клубны тэлевізар. Апрача таго, гарадоцкая ГРН зацягвае рамонт даху ў святліцы, і ўжо на сценах зрабіліся зацёкі. Дагэтуль дарэмныя былі мае клопаты аб тым, каб уставіць часку вокан, а таксама пашкліць іх.

Другім маім субяседнікам быў пажылы селянін, які ўжо дзевяць год з'яўляецца першым сакратаром ПОП. Быў гэта Вінцук Карпюк. Ён звярнуў перш за ўсё ўвагу на тое, што жыхары вёскі Страшава вельмі актыўныя ў грамадскіх чынах. — Дзякуючы ініцыятыве іх саміх, — сказаў ён, — ёсць у нас школа, навюсенькая злеўня малака і новы будынак чыгуначнай пачакальні. Апрача таго, сяляне шмат папрацавалі пры будове дарог.

— У 1969 годзе была праведзена ў нас меліярацыя лугоў і сенажацяў. Зараз дзякуючы такому мерапрыемству значна павысіліся ўраджаі травы. Страшаўская злеўня малака мае 60 дастаўцаў са Страшава і Бялевіч, якія амаль штодзень здаюць да тысячы літраў сырадою.

Сяляне даюць усё большую колькасць штучных угнаенняў пад сельскагаспадарчыя культуры, а ўжо смела можна сказаць і аб тым, што гаспадары са Страшава і Бялевіч даюць іх найбольш у параўнанні з іншымі вёскамі грамады. Больш масава карыстаюцца яны таксама хімічнымі рэчывамі да ліквідацыі пустазелля.

Мы стараемся, каб электрыфікаваць калёніі, а таксама зрабіць вулічнае асвятленне ў вёсцы і асвятленне чыгуначнай пачакальні.

Трэцім маім субяседнікам быў Мікалай Лебядзінскі, настаўнік-пенсіянер. М. Лебядзінскі зазначыў неабходнасць арганізавання ў вёсцы сельскагаспадарчых курсаў. Сказаў ён, што неабходны яны як маладым сялянам, так і гаспадарам з доўгалетняй практыкай, бо паглыбляць ці адсвяжаць веды заўсёды варта.

— Нашы аграномы і заатэхнікі, — гаварыў ён на прыкладзе сваёй вёскі, — часамі дбаюць толькі аб выкананні сялянамі плана закупу штучных угнаенняў, а замала часу прысвячаюць на індывідуальныя размовы і парады сялянам.

А ёсць у нас шмат добрых гаспадароў. Да такіх прыкладных належаць у нас Мікалай Карпюк, сын Арсенія, і Ян Карпюк, сын Цярэнція. Мікалай Карпюк мае не толькі ўласны трактар і амаль усе іншыя сельскагаспадарчыя машыны, але і выкарыстоўвае ён на сваіх зямельных угоддзях усе агратэхнічныя прыёмы. Калі гаварыць аб грамадскіх чынах, дык варта адзначыць факт актыўнага ўдзелу ўсіх сялян, хоць бы, прыкладна, пры пабудове школы і чыгуначнай пачакальні.

Школу пабудавалі мы з будынка перавезенага аж з Беластока, а ўжо самі сяляне звезлі не толькі будаўляныя матэрыялы, як бэлькі, жвір і г.д., але і выканалі ўсе нефаховыя працы. Чыгуначная пачакальня была пабудавана дзякуючы асабліваму здарэнню. Жыхары Страшава даведаліся ад чыгуначнікаў, што тады і тады будзе праязджаць сам дырэктар ДОКП, выйшлі яны ў той дзень гуртам з кветкамі насустрач цягніку. Затрымалі цягнік, расказалі сваю просьбу, і дырэктар згадзіўся адкрыць тут паўстанак. А пачакальню пабудавалі мы ўжо самі. Дырэкцыя чыгункі дала нам толькі будаўляны матэрыял і вапну.

*Я. ЦЯЛУШЭЦКІ*

## КГ У РАФАЛОЎЦЫ

Адным з лепшых грамадскіх камітэтаў партыі (КГ) у Беластоцкім павеце з'яўляецца камітэт у Рафалоўцы. Правёў ён у мінулай кадэнцыі 35 пасяджэнняў. Тэмы іх былі наступныя: ацэнка выканання праграмы дзейнасці камітэта ў мінулай кадэнцыі, ацэнка выканання сельскагаспадарчых планаў па жывёлагадоўлі, кантрактацыі збожжавых культур, па прымяненню мінеральных угнаенняў і ліквідацыі пустазелля і насякомых. На пасяджэннях была прааналізавана таксама дзейнасць мясцовых клубаў і святліц, праведзена ацэнка заняткаў па партыйнай падрыхтоўцы, ацэнка дзейнасці ЗМВ і КГВ.

Вялікія дасягненні камітэт мае ў разбудове партыйных радоў. Прынята 32 асобы ў кандыдаты ПАРП. Добра супрацоўнічаў з КГВ (гурток вясковых гаспадынь). КГВ пры дапамозе КГ (грамадскага камітэта) арганізуе дзяцінцы ў перыяд пільных палявых работ. Арганізаваны ў паасобных КГВ кулінарныя курсы, курсы рацыянальнага харчавання, курсы мясных вырабаў і г.д. У самай Рафалоўцы адбыўся дзявярскі курс. Нядаўна прайшлі партыйныя перавыбары ўлад на грамадскіх канферэнцыях.

Рафалоўскі грамадскі камітэт выбраў паўторна першым сакратаром Тадэвуша Насароўскага, які з'яўляецца бухгалтарам МБМ і радным ГРН, сакратаром прапаганды Віктара Някалу — кіраўніка школы і раднага ГРН, сакратаром па сельскагаспадарчых справах — Генрыка Янчылу, дырэктара ПГР і раднага ГРН. (яц)



# СОЛТЫС

Вёска Плянта (Гайнаўскі павет) не вялікая, налічвае ўсяго 70 гаспадарак, але раскінутая па хутарах. Нялёгка быць солтысам у такой вёсцы. Аднак Аляксей Анішчук свае солтысаўскія абавязкі выконвае паспяхова ўжо 12 год. За гэтыя гады многа чаго змянілася ў вёсцы.

Зараз ёсць тут новая крама, малачарня, сельскагаспадарчы гурток, дамы накрыты чарапіцай. Увечары на вуліцы і ў хатах гараць электрычныя лямпачкі.

Вёска Плянта стала перадавой у Нараўскай грамадзе па аплачванню падаткаў. Немалая ў гэтым заслуга солтыса. Гаспадары з Плянты ўсё больш займаюцца гадоўляй быдла, бугаёў і пародзістых свіней. У летні перыяд прадаюць яны дзяржаве больш 500 літраў малака ў дзень. Па 10—20 літраў малака прадаюць штодзень Антон Грыцук, Грыша Анішчук, Марыся Бойка і г.д. Плянтаўскія жыхары актыўныя. Шмат папрацавалі яны грамадскім чынам пры пабудове крамы, малачарні і дарог. У апошні час сяляне паглыбляюць свае веды на курсе сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.

На агульнаграмадскіх сходах жыхары Плянты абмяркоўвалі многа істотных спраў з жыцця сваёй вёскі, між іншым, інвестыцыі, выкананне планаў кантрактацыі збожжавых культур і мінеральных угнаенняў, забеспячэнне крамы харчавымі прадуктамі і г.д. З многімі прапановамі выступіў да аднавяскоўцаў сам солтыс А. Анішчук.

Аляксей Анішчук займаецца не толькі гаспадаркай і выкананнем солтысаўскіх абавязкаў. У вольны час любіць ён пачытаць кніжкі на тэмы жыцця людзей у іншых краінах, прачытаць «Газету Беластоцкую», «Ніву» і «Плён». (ЯЦ)

## У ГАЙНАЎСКІМ ПАВЕЦЕ...

...зямельныя ўгоддзі займаюць 50 працэнтаў агульнай паверхні, з тых зямельных угоддзяў лугі і сенажаці займаюць 34 прац., а ворныя грунты 66 прац. Вялікім дасягненнем у сельскагаспадарчай галіне з'яўляецца ліквідацыя цераспалосіцы на 34000 гектараў, а таксама ліквідаванне яе ў далейшым на 15 500 га. На 27 000 гектараў лугоў і пасбішч загаспадарана 9 200 га. Прадугледжваецца, што ўраджаі з іх дадуць 85 працэнтаў сена з 1 га.

У павеце ёсць 1 108 супольных пасбішчаў, якія займаюць 3200-гектаравы абшар. На 1200 га перасталі пасвіць табунамі быдла. Загаспадарваюць наступныя 500 га.

Дагэтуль на слабых глебах пасаджана 2 330 га лесу.

Агулам у павеце налічваецца 28 000 штук быдла, г. зн. 36 штук на 100 га зямельных угоддзяў. (ЯЦ)

## У СВЯТЛІЦЫ ЧЫГУНАЧНІКАЎ

На чыгуначным прыпынку Нараўка (Гайнаўскі павет) ёсць святліца чыгуначнікаў, працай якой кіруе Уладзімір Клімюк. У святліцы заўсёды шмат наведвальнікаў. Увечары можна тут глядзець тэлевізійную праграму, слухаць мелодыі з грампласцінак, іграць у шахматы або чытаць прэсу. На століках можна знайсці розныя часопісы, як «Трыбуна Люду», «Газета Беластоцкая», «Культура і Жыце», «Пшыяцюлка», «Гаспадыні», «Советский Союз», «Огонёк», «Известия», «Беларусь» і г.д.

У святліцы адбываецца многа культурна-асветных мерапрыемстваў: сустрэчы з цікавымі людзьмі, гутаркі на грамадска-палітычныя і выхаваўчыя тэмы, адбываюцца рэпетыцыі музычнага гуртка, удзельнікі якога вучацца іграць на акардэоне, мандаліне і гітары. Адзін раз у тыдзень прыязджае сюды аб'язное кіно з фільмамі. З нагоды дзяржаўных свят адбываюцца тут урачыстыя акадэміі. ЗМВ-оўская моладзь рыхтуе тады мастацкую частку, конкурсы, «згадуй-згадулі», дэкарацыі і сценгазеты. Апрача гэтага, моладзь займаецца спортам, грамадскім чынам наладжвае спартыўную пляцоўку, парадкуе чыгуначны будынак або прымае ўдзел у пабудове дарог. У святліцы ёсць бібліятэчны пункт сядлецкай бібліятэкі, які налічвае 184 кніжкі мастацкай літаратуры і школьнай лектуры, у тым ліку 74 кніжкі на беларускай мове. Кніжкамі карыстаецца 78 чытачоў, а найбольш Адам Цэха, Гражына Грыка і Аляксандр Клімюк. Кіраўнік святліцы Ул. Клімюк прывівае любоў да кнігі не толькі моладзі, але і дарослым. Умее ён выбраць кніжку да густу чытача, умее заахвоціць пачытаць прэсу і г.д. (яц)

Ці Вы ўжо выпісалі „Ніву"?

Беларуская літаратура

АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

# ЛІТАРАТУРА КІЕЎСКАЙ РУСІ

АГІЯГРАФІЧНАЯ ЛІТАРАТУРА. Назва жанру звязана з грэчаскімі словамі агіос-святы, графія — апісанне. Даволі часта гісторыкі літаратуры ўжываюць на акрэсленне гэтага жанру тэрмін «жыццийная літаратура». Агіяграфія з'яўляецца класічным прыкладам рэлігійнай літаратуры — яе мэта заключалася ў прапагандаванні жыцця і дзейнасці духоўных або свецкіх кананізаваных асоб. Першыя ўзрывы жыццийнай літаратуры паявіліся ў Рымскай імперыі. Кіеўская Русь узоры гэтыя прыняла з Візантыі.

Архітэктоніка агіяграфічных твораў адзначаецца пэўнай шаблоннасцю. Як правіла раздзяляюцца яны на тры часткі. У першай частцы гаворыцца аб дамашнім асяроддзі будучага святога і аб яго дзяцінстве. Ужо тады праяўляецца ў яго абыякавасць да гульняў з равеснікамі і схільнасць да навукі і малітвы.

Другая частка прысвечана юнацтву святога і яго падзвіжніцкай дзейнасці. Нямала тут разважанняў аб змаганні святога з цялеснымі спакусамі і з зайздроснымі ворагамі.

У трэцяй частцы расказваецца часта аб смерці святога, аб цудах на яго магіле і аб пакаранні богам яго ворагаў. Зразумела, што бываюць жыцці, у якіх бачым большыя або меншыя адхіленні ад гэтага шаблону.

Да найбольш вядомых твораў жыццийнай літаратуры ў Кіеўскай Русі належалі: «Жыццё Аляксея чалавека божага», «Жыццё Барыса і Глеба», «Жыццё Феадосія Пячэрскага». З беларускімі землямі звязаны «Жыццё Ефрасініі Полацкай», «Жыццё Аўраамія Смаленскага». Некаторыя з даследчыкаў да жыццийнай літаратуры адносяць таксама «Повесць аб Меркурыі Смаленскім».

Калі разглядаць жыцці, паўстаўшыя на беларускіх землях з пункту гледжання рэалізму, дык на першым месцы трэба паставіць «Жыццё Ефрасініі Полацкай», на другім месцы больш фікцыйнае «Жыццё Аўраамія Смаленскага», на трэцім зусім фантастычную «Повесць аб Меркурыі Смаленскім».

Жыццё Ефрасініі Полацкай было напісана, праўдападобна, у канцы XII або ў пачатку XIII ст. Расказвае яно аб жыцці і дзейнасці дачкі Полацкага князя Георгія, якая адмовіла ўсім канкурэнтам да яе рукі і выбрала шлях падзвіжніцтва і служэння царкве. У канцы жыцця Еўфрасінія паехала ў Палестыну на міфічную магілу Хрыста, дзе пакінула залатую кадзельніцу, — дар усёй Рускай зямлі. Вяртаючыся на радзіму, Еўфрасінія памерла. З постаццю Еўфрасініі звязана матэрыяльная памятка — залаты крыж з мініятурнымі абразкамі і дарагімі каменнямі, які быў зроблены тагачасным полацкім рамеснікам Лазарам Богшам.

Жыццё Аўраамія Смаленскага было напісана, праўдападобна, каля 1240 года. Расказваецца ў ім аб падзвіжніцкай дзейнасці Аўраамія, які жыў у канцы XII і ў пачатку XIII ст. Жыццё Аўраамія поўнасцю супадае з канонамі агіяграфічнай літаратуры. Складаецца яно з трох частак, якія адносяцца да дзяцінства, падзвіжніцкай дзейнасці і смерці святога. Са зместу жыцця даведваемся, што Аўраамій быў трынаццатым дзіцём у сваёй сям'і. У яго было дванаццаць сясцёр. Ужо ў дзяцінстве стасаваўся да посту, цікавіўся законам божым і малітвай. Калі дарос, адмовіўся ад жаніцьбы. Пасля смерці бацькоў раздаў усю маёмасць бедным і пастрыгся ў манахі. У перыяд сваёй царкоўнай службы сустрэўся з варожасцю духавенства, якое не хацела прызнаць яго святасці. Быў нават суджаны царкоўным судом і выселены з манастыра. Ворагі Аўраамія былі аднак пакараны богам. Доказам прыхільнасці бога да Аўраамія быў вялікі дождж, які пайшоў пасля малітвы Аўраамія падчас вялікай засухі. Факт гэты праславіў паводле аўтара імя святога ў народзе. Памёр Аўраамій, маючы 50 год.

Повесць аб Меркурыі Смаленскім па сутнасці беспадстаўна залічваецца некаторымі даследчыкамі да агіяграфічнай літаратуры. Дамінуюць у ёй фантастычныя элементы. Повесць у многім нагадвае фальклорныя творы аб міфічных героях-мсціўцах. Значэнне повесці заключаецца ў моцна падкрэсленай ідэі барацьбы з мангольскім нашэсцем.

Канчаючы інфармацыю аб жыццийнай літаратуры, мусім памятаць аб эпосе, у якой паўставала. Было гэта глыбокае сярэднявечча, якое адзначалася пагардай да ўсяго свецкага, рацыянальнага, дачэснага. Агіяграфія была зброяй у руках царквы. Прапагандаванне пагарды да нармальнага жыцця, пахвала пакорлівасці, бескрытычнай паслухмянасці, узвышэнне аскетызму і сляпой рэлігійнасці становяць яе істоту.

# ЯШЧЭ ў адрас Орлі

Рэдакцыя атрымала ліст В. Валкавыцкай з Орлі. Адклікаецца яна на мой артыкул «Пра Орлю не найлепш» і робіць мне закід, быццам бы я паставіла ў ім справу звальнення з працы арлянскай светліцовай. Аўтар лісту піша: «Варожыя элементы момант гэты ўжо выкарысталі». Далей, у доўгім сваім лісце расказвае В. Валкавыцкая пра сваю багатую грамадскую працу, пра дасягненні і поспехі ў працы святліцы, якой кіруе.

Не разумею, чаму аўтар лісту гэтак адчытаў мой артыкул. Не паставіла я ў ім прапановы звальнення светліцовай з працы. А што артыкул быў крытычны? Так! Проста старалася я, зрэшты, разам з адказнымі дзеячамі ГРН, разважыць пытанне клімату культурнага жыцця Орлі, ролі дома культуры, які там ёсць. Факт, выйшла пры гэтым справа браку каардынацыі ў культурна-асветнай дзейнасці паміж арлянскімі так званымі «пляцоўкамі» — клубам, святліцай, бібліятэкай, прэзідыумам ГРН, ЗМВ і ГС-ам, якія, як зразумела я, у Орлі не адмаўляецца ад удзелу ў культурнай працы. Брак згодных дзеянняў з'яўляецца прычынай таго, што няма адналітай праграмы, і што, праўду кажучы, увогуле праграмы няма.

Зразумела, у культурнай працы (цяпер аб гэтым ведаем і будзем гаварыць) так, як і ў кожнай іншай прафесіі, вымагаецца, і ўсё больш будзе вымагацца, адпаведна падрыхтоўваных кадраў, людзей, якія ўмеюць працаваць. Слабасць нашых культурных кадраў, асабліва ў раёне, вельмі часта бывае прычынай дрэннай культурнай дзейнасці, беспраграмнай, часовай. Можна крытыкаваць ваяводства, павет, рэдакцыю, але пачаць трэба ад упарадкавання свайго панадворка, пачаць трэба ад сябе. Калі мой артыкул «Пра Орлю не найлепш» хоць у малой меры прычыніцца да такога ўпарадкавання культурнай дзейнасці ў сімпатычнай для мяне Орлі, то буду вельмі задаволена.

*Вера Леўчук*

# НЕРАЗУМНАЯ ПАСТАНОВА

Быў халодны кастрычніцкі вечар 1966 года. Закончыўшы сялянскія работы ўвечары жыхары Лявонавіч Беластоцкага павета перапоўнілі сялянскую хату. Прыйшлі яны на нязвыклы сход. На ім мелі вырашыцца лёсы пакінутага дома. Усе былі згодныя, каб адрамантаваць будынак і зрабіць з яго святліцу. Выбраны быў трохасабовы камітэт, абавязкам якога было каардынаваць грамадскую працу. Апрача мяне, у склад камітэта ўвайшлі сакратар грамадскага камітэта ПАРП у Шымках Мікалай Хлябіч і жыхар Лявонавіч Лявон Грыц. Грамадскі чын ахапіў усіх жыхароў вёскі. Асабліва многа ўлажылі працы Мікалай Салавей, Язэп Круціцкі, Іван Бойка і іншыя. Адны рабілі столь, другія падлогу, а яшчэ іншыя рабілі сходы, вазілі пясок, тынкавалі фундамент. Дошкі, пільснёвыя пліты і цэмент закупіў прэзідыум ГРН. Праца хутка закончылася. Аддзел асветы і культуры павятовай рады нарадовай у Беластоку за 35 тысяч купіў мэблю і ўсё патрэбнае абсталяванне. 7-га снежня 1966 года наступіла ўрачыстае адкрыццё святліцы, і забава ў гэты вечар працягвалася аж да раніцы. Было многа радасці і задавальнення ў вёсцы, бо святліца стала сапраўдным цэнтрам культуры. Але доўга жыхары Лявонавіч не карысталіся сваёю святліцаю. Улады ГРН на чале са старшынёй Мікалаем Цімашуком прыйшлі да вываду, што дрэнна працуе светліцовы, і таму закрылі святліцу, а частку абсталявання святліцы забралі ў ГРН. І так вісіць цяпер на дзвярах святліцы замок. Шкада будынка. Пачаў яго «грызці» грыб. Усё добрае, што было зроблена, перакрэслілася неразумнай пастановай ГРН. Бо можна было змяніць светліцовага, але адзінага цэнтра культурнага жыцця вёскі закрываць не было патрэбы. Запрапашчана столькі грамадскай працы і дзяржаўных грошай. Цяпер у ГРН новыя ўлады. Павінны яны зноў аддаць святліцу ў выкарыстанне жыхарам Лявонавіч.

*Мікалай Гогель*
*Былы жыхар Лявонавіч*



*Дырэктар Пётр Хомка.*

# БЕЛЬСКІЯ БУДАЎНІКІ

У Бельску Падляшскім існуе павятовае рамонтна-будаўлянае прадпрыемства, якое ўзнікла ў 1950 годзе. Развіццё яго вельмі характэрнае для нашага часу.

Першыя гады былі даволі цяжкія для прадпрыемства. Не было будаўляных машын. Усе працы выконваліся ўручную. Будаўляныя матэрыялы вазіліся фурманкамі нават у такія далёкія мясцовасці, як Сямяцічы, Цехановец, Гайнаўка. У той час прадукцыйная моц прадпрыемства не перавышала 2,5 млн зл. Выконвала яно толькі капітальныя або звычайныя рамонты будынкаў.

Але хутка ішлі гады, хутка развівалася наша краіна і бельскае прадпрыемства. Ужо ў 1962 годзе моц прадпрыемства дасягала сумы 6-ці млн. зл. Было выканана шмат працаёмкіх будоў у Гайнаўскім і Бельскім паветах. Якасць работ з кожным годам узрастала.

Немалую ролю ў гэтым адыгрывае спаборніцтва, арганізаванае самім прадпрыемствам. Апрача таго, гэтае прадпрыемства ўключылася ў спаборніцтва ваяводства і краіны. І ў 1966 годзе займае яно другое месца на Беласточчыне, а ў 1968 годзе — першае месца ў спаборніцтве агульнапольскім. Такога дасягнення не чакалі нават нашыя будаўляныя ўлады.

У Беласток на акадэмію прыехаў сам міністр камунальнай гаспадаркі і ўручыў дырэктару гэтага прадпрыемства Пятру Хомка сцяжок і 40 тыс. зл. узнагароды для калектыву прадпрыемства.

У сувязі з развіццём прадпрыемства неабходна было мець добрую тэхнічную базу. У 1970 годзе закончыліся тут усе будаўляныя работы і для ўсяго калектыву палепшыліся сацыяльныя ўмовы працы. Прадпрыемства мае цяпер дасканалыя варштаты з сучасным абсталяваннем, сталовай, душамі, ваннамі, раздзявальняй і дасканалы прыгожы «бюровец». Падчас гэтай будовы праявілася многа ахвярнасці ўсяго калектыву, які грамадскім чынам выконваў многа розных работ — у сярэднім на суму 130 тыс. зл. у год.

Працуе зараз на прадпрыемстве ў сярэднім 130 чалавек, у тым ліку 2 інжынеры, 5 будаўляных тэхнікаў і 3 майстры. Механізавана шмат работ. Найбольш цяжкія і працаёмкія работы — гэта мяшанне вапны і дастаўка матэрыялу да месца працы муляра або іншага рабочага. Гэта выконваецца зараз машынамі, спецыяльнымі мяшалкамі і транспарцёрамі. Прадпрыемства мае 12 самаходаў. Яго прадукцыйная моц узрасла да 12 мільёнаў зл.

Побач з дасягненнямі ёсць і недахопы на прадпрыемстве. Да іх трэба залічыць перш за ўсё недахоп належнай арганізацыі працы і дысцыпліны працы. Адчуваецца таксама недахоп рабочых.

Аб недахопах,аб лепшай арганізацыі працы часта гаворыцца на партыйных сходах і пасяджэннях экзекутывы. 27-асабовая ПОП на чале з сакратаром Аляксандрам Скарбіловічам цікавіцца ўсімі справамі і праблемамі прадпрыемства і аказвае вялікую дапамогу дырэкцыі ў вырашэнні тых ці іншых пытанняў. Пачынаючы ад новага года распачаўся новы раздзел гісторыі гэтага прадпрыемства. Пад кіраўніцтва яго дырэкцыі пераходзіць Сямяціцкае будаўляна-рамонтнае прадпрыемства. І ў сувязі з гэтым называецца яно зараз «Рамонтна-будаўлянае прадпрыемства камунальнай гаспадаркі».

*Міхась Хмялеўскі*
*фота Павел Зінкевіч*

# „ФАСТЫ" — РАБОЧАЯ ГАЗЕТА

Фасты — гэтае слова ведае ўся Беласточчына, краіна і нават свет. Стала яно сімвалам развіваючайся прамысловай Беластоцкай зямлі.

Вялікае прамысловае беластоцкае прадпрыемства «Фасты» выдае ўласную рабочую газету, якая таксама называецца «Фасты» і з'яўляецца органам рабочага самаўпраўлення. Газета выходзіць пакуль як аднаднёўка. Выйшаў вось трэці яе нумар. Велічыня такая, як «Нівы». Рэдагуецца газета цікава, многа здымкаў, цікавых інфармацый. Тэматыка: жыццё і праца прадпрыемства. (вл)

БІБЛІЯТЭЧКА "НІВЫ" — ЯНКА МАУР — ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і наніжы старонкі на дроцікі або шнурочак.*



Прыслухаліся — ніхто не адгукаецца.

Зноў пачалі крычаць, зноў прыслухаліся. Потым пабеглі наперад, нібы шалёныя, кідаліся ва ўсе бакі і крычалі датуль, пакуль не страцілі голас. Але ўсё было дарэмна...

— Няма! Пайшоў, — апусціў галаву Віктар. — А ён ведае дарогу.

— Добра ўжо і тое, што сюды можна прыйсці, — сказаў Мірон. — А калі можна прыйсці, — значыцца, можна і выйсці.

— Але як, калі не ведаеш, знайсці гэтую сцежку?

— Вядома, нялёгка. Затое мы пэўна ведаем, што яна ёсць. І гэта добра.

Доўга абмяркоўвалі яны гэтае здарэнне, нават заснуць не маглі. Вельмі шкадавалі, што чалавек не знайшоў іх. Але ж затое ў іх з'явілася надзея хутка выбрацца з гэтай пушчы.

І калі нарэшце, здавалася, яны паснулі, Віктар раптам усхапіўся і штурхнуў Мірона ў бок.

— Чаго ты? — нездаволена буркнуў той.

— Слухай! — трывожным шэптам пачаў Віктар, — А што, калі... ён... наўмысля не хацеў сустрэцца з намі?

— Ну, во яшчэ што выдумаў! Спі. Заўтра ўбачым.

— Не, ты толькі падумай: будка, вогнішча, чарапаха з сокам, розныя хатнія рэчы, а галоўнае, барсучыная скура ў будцы. Хіба можна падумаць, што нікога няма? Га?

— А чаму ж не? — адказаў Мірон, але ўжо не так упэўнена. — Калі мы пойдзем, то пакінем жа і вогнішча, і будку.

— А чарапаху? А барсучыную скуру?

— Ну, ён мог на гэта не звярнуць увагі.

— Але ж ён, здаецца, стаяў і курыў тут.

Довады Віктара пахіснулі і Мірона. Але як яны ні меркавалі, растлумачыць гэты незразумелы факт ніяк не маглі. Ну хто мог хавацца ад іх і навошта?...

Так і паснулі ў трывожным няведанні.

## XIV

**Дарэмныя патугі. — Паселішча баброў. — Яшчэ адна няўдалая спроба. — Недакурак варона на хвасце прынесла. — Сонны заяц.**

Ледзь толькі ўзышло сонца, як хлопцы былі на нагах і спешна рушылі ў дарогу. Калі яны падышлі ўжо да балота, каб пераправіцца на другі востраў, Мірон прыпыніўся і сказаў:

— А чаму мы так упэўнены, што чалавек прыходзіў з таго вострава? Ён жа мог прыйсці і непасрэдна на наш.

Віктар і сам здзівіўся, адкуль узялася ў іх гэтая ўпэўненасць. Тым болей, што чалавеку без ніякай патрэбы



— Дык вось як яны жывуць! — прамовіў Мірон. — Трэба будзе добра прыгледзецца да іх.

— Абавязкова! — згадзіўся Віктар. — Варта спецыяльна дзеля гэтага застацца на адзін лішні дзень.

Сёння было позна ўжо гэтым займацца. Надыходзіў вечар, хлопцы даўно ўжо выйшлі з «дому», і трэба было спяшацца, каб не пагас агонь. Зірнулі мімаходзь на бабровае паселішча і пайшлі далей.

Уся гэтая мясціна выдалася зусім не грузкая. Калі працiснуліся праз зараснік, то адразу выйшлі на ўзгорак, а за ім недалёка ўбачылі і сваю рыбную сажалку.

— Вось табе і на! — крыкнуў Віктар. — Навошта ж мы пакутавалі на балоце, калі тут ёсць такая добрая дарога!

У высахлай сажалцы відаць было шмат слядоў не толькі звяр'я, але і птушак.

— Відаць, усе паласаваліся нашай рыбай, — заўважыў Мірон.

Так скончыўся гэты дзень. Здавалася, ён быў такі самы цяжкі, няўдалы, безнадзейны, як і папярэдні, але хлопцы неяк менш непакоіліся і не пакутавалі, як тады, новыя падзеі адцягнулі іх увагу ад сумных думак.

А на другі дзень доўга не маглі вырашыць, за што ўзяцца: ці дарогу шукаць, ці ісці паглядзець баброў.

— Зразумей жа ты, — даводзіў Мірон, — што ад дарогі залежыць наша выратаванне. Нельга з-за цікавасці рызыкаваць жыццём. Калі будзем ведаць дарогу, тады заўсёды можам вярнуцца і спакойна заняцца назіраннем. Я не кажу, каб абавязкова ісці дадому. Хай мы знойдзем хоць след чалавечага жылля і адтуль вернемся.

Віктар жа даводзіў сваё:

— Ну як жа ісці далей, калі побач такая цікавая рэч? Калі яшчэ вернемся ды і ці вернемся наогул — невядома. Можа, гэты след за дваццаць кіламетраў. Ці захочаш тады ты сам вяртацца назад? Я не спадзяюся на гэта.

Доўга спрачаліся яны і, нарэшце, вырашылі кінуць жэрабя. Лёс вырашыў на карысць Віктара.

Праз некаторы час яны былі каля бабровага паселішча. Спачатку ўважліва агледзелі будоўлю. Адно з паваленых дрэў мела сантыметраў сорак таўшчыні, другое — крыху меней, а побач было шмат танчэйшых пнёў.

— Няўжо ўсё гэта яны самі звалілі? — дзівіўся Мірон.

— А то хто ж? Глядзі, як падпілавалі.

Усе пні былі завостраныя, нібы калы. Таксама былі завостраныя і канцы дрэў. Бабры пачыналі грызці навакол шырокай паласой, а потым усё вузей і вузей, пакуль дрэва не ламалася.

— Няўжо яны па свайму жаданню валяць гэткае дрэва ў той ці іншы бок? — пытаўся Мірон.

— Мусіць, так, бо, бачыш, няма ніводнага дрэва, паваленага ў другі бок.

Тут яны заўважылі вялікую асіну, якая была падгрызена так, што, здавалася, яе можна было б зваліць пальцам.

— Не! — крыкнуў Віктар. — Хоць сам загіну, а падпільную, як яны будуць валіць гэтае дрэва!

